

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.

№7 (225) ТРАВЕНЬ 2017 ГОД

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# СЯРОД БЕДНЫХ РЭГІЁНАЎ

**У топ-10 самых «бедных» раёнаў у сакавіку апынуліся адразу 7 прадстаўнікоў Віцебскай вобласці. Сёмае месца рэйтынгу сярод іх займае Шумілінскі раён.**

Сярэдняя сакавіцкая зарплата беларусаў вырасла на 54,1 рубля і склала амаль 771 рубель. «Запаветныя» 1000 рублёў атрымлівалі толькі жыхары Мінска і Салігорскага раёна. Як заробкі беларусаў адрозніваюцца па раёнах?

У самым «бедным» раёне атрымлівалі меней за 250 доляраў.

У топ-10 самых «бедных» раёнаў у сакавіку апынуліся адразу 7 прадстаўнікоў Віцебскай вобласці. Менш за ўсё па-ранейшаму атрымліваюць жыхары Шаркаўшчынскага раёна (447,2 рубля). Гэта менш, чым 240 доляраў (у тэксце сумы ў доларах прыведзены па сярэдняўзважанага курсу Нацбанка за сакавік гэтага года). Да прыкладу, у Бешанковіцкім раёне, які размясціўся на другім месцы рэйтынгу самых «бедных», атрымлівалі 483,3 рубля або 255 даляраў.

У дзясятку «беднякоў» таксама патрапілі Мсціслаўскі (485,6 рубля), Лоеўскі (492,7 рубля), Кармянскі (498,9 рубля).

Замыкае топ-10 раёнаў з самымі нізкімі палучкі ў сакавіку Сенненскі, дзе ў сярэднім зараблялі 499,9 рубля.

Топ-10 раёнаў з самымі нізкімі заробкамі ў сакавіку

1. Раён. 2. Сярэдняя зарплата у рублях. 3. рэальная зарплата ў сакавіку да аналагічнага перыяду 2016 года, у %

| | | |
|---|---|---|
| Шаркаўшчынскі | 447,2 | 0,4 |
| Бешанковіцкі | 483,3 | -1,8 |
| Мсціслаўскі | 485,6 | 1,2 |
| Міёрскі | 488,2 | -0,8 |
| Ушацкі | 489,9 | 5,6 |
| Лоеўскі | 492,7 | 3,4 |
| Шумілінскі | 495,5 | 2,3 |
| Лёзненскі | 497,8 | +3 |
| Кармянскі | 498,9 | 4,7 |
| Сенненскі | 499,9 | 1,5 |

Толькі ў адным раёне зараблялі больш за 1000 рублёў.

Першы радок у топ-10 самых багатых раёнаў займае Салігорскі, у якім у сакавіку атрымлівалі ў сярэднім 1042 рубля, або 550 дораляў. Больш атрымлівалі толькі жыхары Мінска - 1 118,1 рубля, або 591 даляр. Больш ні ў адным горадзе і раёне не могуць пахваліцца заробкам больш запаветных 1000 рублёў. Але Мінскі раён набліжаецца да гэтай сумы – 924,9 рубля ў сакавіку.

І толькі ў 63 раёнах з 118 у сакавіку атрымлівалі больш за 300 даляраў.

Топ-10 раёнаў з самымі высокімі заробкамі ў сакавіку

1. Раён. 2. Сярэдняя зарплата у рублях 3. Рэальная зарплата ў сакавіку да аналагічнага перыяду 2016 года у%

| | | |
|---|---|---|
| Салігорскі | 1042 | -6,2 |
| Мінскі | 924,9 | +2,5 |
| Дзяржынскі | 830,5 | 4,7 |
| Рэчыцкі | 796,4 | 6,1 |
| Смалявіцкі | 755,4 | 2,3 |
| Астравецкі | 725,3 | 6,1 |
| Мазырскі | 725 | 0,5 |
| Жлобінскі | 717 | +10,1 |
| Лагойскі | 700,3 | 5,4 |
| Светлагорскі | 696 | 1,1 |

Як за год змянілася рэальная зарплата.

Рэальная зарплата ў сакавіку да аналагічнага перыяду мінулага года больш за ўсё ўпала ў Салігорскім раёне (-6,2%). Яна таксама скарацілася ў Калінкавіцкім, Драгічынскім, Дрыбінскім, Мядзельскім, Мёрскім, Бешанковіцкім раёнах, а таксама ў Наваполацку і Мінску. У астатніх раёнах гэты паказчык у сакавіку вырас, больш за ўсё - у Крупскім раёне (+ 12,8%).

Нагадаем, у лістападзе мінулага года Аляксандр Лукашэнка даручыў вярнуць сярэдні заробак на ўзровень 500 доляраў у 2017 годзе. Але з умовай адпаведнага росту прадукцыйнасці працы.

У красавіку гэтага года прэзідэнт заявіў, што заробак у 1000 рублёў – гэта той мінімум, які дзяржава павінна дапамагчы людзям зарабіць.

Дасягненне сярэдняй зарплаты ў Беларусі ў 2017 годзе памерам у 1000 рублёў, як таго патрабуе Аляксандр Лукашэнка, рэальна, заявіла 1 траўня міністр працы і сацыяльнай абароны Ірына Касцевіч.

**Ян Вайтовіч**

***ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY***

ВАЛАНЦЁРСКІ РУХ

# ГУМАНІТАРНАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ З ГАЛАНДЫІ

**Чарговы раз у Шумілінскі раён завіталі госці з Нідэрландаў. Дэлегацыя міжнароднай дабрачыннай арганізацыі «Дапамажы людзям» наведала разнастайныя сацыяльна-культурныя аб'екты, у першую чаргу тыя, што ў свой час атрымалі іх гуманітарную падтрымку.**

Амаль 20 год таму пасябраваўшы з нашым раёнам, валанцёры вяртаюцца сюды зноў з чарговай дапамогай, якая заўжды грунтоўная і шчырая. Дабрачынцы найперш наведваюцца туды, дзе жывуць людзі з абмежаванымі магчымасцямі, састарэлыя, нямоглыя, хворыя, дзе ёсць дзеці. Іх галоўная місія – убачыць праблемы на месцы і дапамагчы канкрэтным людзям. У гэты раз большая частка дэлегацыі (а ўсяго прыехала 19 чалавек) упершыню пабывала на Шумілінычыне. Мясцовая грамадскасць паказвала гасцям, што было зроблена раней. Была наладжана такая адмысловая экскурсія па тых месцах, дзе валанцёры аказвалі дапамогу.

Найперш візіцёры пабывалі ў Обальскай школе, дзе 10 гадоў таму быў абсталяваны харчаблок. Ужо на самым ганку яны пачулі прыемныя словы падзякі за такі падарунак для дзяцей і работнікаў. Валанцёры ўважліва абследавалі стан абсталявання, якое выдатна працуе на сённяшні дзень. Відавочна, што сустрэча ім запомніцца жывой гутаркай з дзецьмі на англійскай мове. Менавіта таму, што сярод гасцей таксама былі падлеткі; майстар-класам па кераміцы, які правёў Яўген Наважылаў з гуртkоўцамі; фільмам, які нагадаў падзеі 10-гадовай даўніны.

Дэлегацыя таксама наведала і прытулак, які ў свой час атрымліваў гуманітарную падтрымку.

Затым дэлегацыю гасцей сустракалі пастаяльцы аддзялення кругласутачнага знаходжання ТЦСАН у Мішневічах. Дырэктар ТЦСАН Валянціна Штуро і за харча-блок, і за пральню, і за іншую вялікую дапамогу выказвала ўдзячнасць гасцям з Нідэрландаў. Нават не ведаючы мовы, пацыенты аддзялення стараліся наладзіць гутарку з гасцямі.

Дэлегацыя пабывала і ў цэнтральнай раённай бальніцы. Пры гэтым галоўны ўрач Канстанцін Баканаў выказаў меркаванне, што ні ў адным раёне няма такога ўзроўню харчаблоку. Чаго ніяк нельга сказаць пра пральню, куды таксама адвялі гасцей. Пабывалі яны і ў дзіцячым аддзяленні бальніцы.

Сустракалі замежных гасцей і ў цэнтры карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі. Тут многае для рэабілітацыі дзяцей-інвалідаў з'явілася менавіта дзякуючы іх гуманітарнай дапамозе.

Надалей дэлегацыя наведала дом сямейнага тыпу, у якім зараз гадуецца сямёра дзяцей, некаторыя шматдзетныя, прыёмныя і апякунскія сем'і. Госці зрабілі візіт у раённую гімназію, завіталі ў музей Обальскага камсамольскага падполля, Дом рамёстваў, фізкультурна-аздараўленчы цэнтр. Карацей кажучы, выхадныя на шумілінскай зямлі аказаліся надзвычай насычанымі для іх. Замежных гасцей паўсюль сустракалі з радасцю і ўдзячнасцю, дарылі памятныя сувеніры, запрашалі ў госці яшчэ.

Што тычыцца гуманітарнай падтрымкі тых сацыяльных аб'ектаў у нашым раёне, якія маюць у гэтым неабходнасць, госці як прадстаўнікі вядомай дабрачыннай арганізацыі прапаноўвалі рабіць праекты і накіроўваць іх для разгляду ў арганізацыю.

**У. Амбросаў**

КРЫМІНАЛ

# АБРАБАВАЎ БАНК АДНЫМ ТЭЛЕФОННЫМ ЗВАНКОМ

**Неўсталяваны мужчына змог дыстанцыйна выбавіць у аднаго фінансавай установы ў Шуміліна суму, роўную прыкладна 38 тысячам даляраў. Пра гэта паведамляе ўпраўленне Следчага камітэта па Віцебскай вобласці.**

У працоўны час 6 красавіка на тэлефон касіра аднаго з банкаў у Шуміліна патэлефанаваў мужчына, які прадставіўся супрацоўнікам тэхпадтрымкі праграмнага забеспячэння.

Касіру ён патлумачыў, што для праверкі сістэмы трэба здзейсніць некаторыя аперацыі. У ходзе размовы з жанчынай ён даў указанні ўвесці значэння ў аплатную сістэму банка на пералік грошай.

У выніку аперацый, учыненых па ўказанні мужчыны, 26-гадовая касір адправіла міжнародныя грашовыя пераклады неўстаноўленым асобам у суме больш чым на 1,9 млн расійскіх рублёў і 4,9 тысячы долараў.

Частка аперацый на 260 тысяч расійскіх рублёў была заблакаваная сістэмай банка.

Шумілінскі райаддзел Следчага камітэта ўзбудзіў па гэтым факце крымінальную справу па ч. 1 арт. 14 і ч. 4 арт. 209 КК - замах на махлярства, здзейсненае ў асабліва буйным памеры.

Следчыя агледзелі памяшканне банка, дзе працавала касір, канфіскавалі мабільны тэлефон і ноўтбук, дапыталі касіра і даручылі органам унутраных спраў правесці аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы па ўсталяванні падазраванага.

Следчыя рыхтуюць ліст у Нацбанк аб тэрміновым апавяшчэнні ўсіх банкаў, іх філіялаў і аддзяленняў аб тым, што адбылося ў Шуміліна і папярэджанні падобных выпадкаў.

Расследаванне крымінальнай справы працягваецца.

**myfin.by**

БІЯТЛОН

# ЦІ ТРАПІЦЬ АННА СОЛА Ў ЗБОРНУЮ?

**У Рэспубліканскім цэнтры алімпійскай падрыхтоўкі па зімовых відах спорту «Раўбічы» прайшло пасяджэнне Рэспубліканскага трэнерскага савета. На парадку дня пасяджэння значылася камплектаванне мужчынскай і жаночай нацыянальных зборных.**

Людзі, якія сабраліся заслухалі справаздачы па выніках мінулага сезону ад старэйшых трэнераў жаночай і мужчынскай зборных Фёдара Свабоды і Аляксандра Сымана. Адным з найбольш важных пытанняў у парадку дня пасяджэння значылася камплектаванне мужчынскай і жаночай нацыянальных зборных. Таксама абмяркоўвалася пытанне аб сістэме падрыхтоўцы моладзі.

У нацыянальную каманду было прапанавана 6 жанчын і 7 мужчын. Канчатковы склад будзе сфарміраваны падчас атэстацыі нацыянальнай каманды.

Жанчыны: Дар'я Домрачава, Надзея Скардзіна, Ірына Крыўко, Ганна Сола, Надзея Пісарава і Дар'я Юркевіч.

Мужчыны: Уладзімір Чапелін, Раман Елетнов, Максім Варабей, Сяргей Бочарников, Аляксандр Дарожка, Віктар Крыўко і Антон Смольскі.

Дадзены спіс быў сфармаваны зыходзячы з прапаноў старэйшых трэнераў (Фёдара Свободы і Аляксандра Сымана) і на падставе выступаў па ходу сезона, таксама ўлічвалася паглыбленае медыцынскае абследаванне, якое праводзілася па заканчэнні сезона.

Дзмітрый Абаша не ўвайшоў у дадзены спіс па рашэнні кіраўніка Беларускай федэрацыі біятлона, так як праігнараваў медыцынскае абследаванне. Са складу каманды выведзена Марыя Панфілава.

Калегіяй Міністэрства спорту выступленне мужчынскай каманды было прызнана нездавальняючым, жаночай – здавальняючым.

Што тычыцца падрыхтоўкі моладзі, было прапанавана зрабіць 4 каманды: дзве маладзёжныя (жаночая і мужчынская) і дзве юнацкія. У моладзевай камандзе будуць трэніравацца юніёры і тыя, хто не ўвайшоў у склад нацыянальнай каманды. Гэта пераходная група, і галоўны старт для яе – чэмпіянат Еўропы. Трэнерамі ў дадзеных камандах будуць: Сяргей Сакалоўскі, Сяргей Дашкевіч і Уладзімір Аляніцка.

**tribuna by.**
**Пераклад з расейскай рэдактара**

ЗДАРЭННІ

# ПАЖАР У ІНТЭРНАЦЕ

**1 траўня ў Шуміліне каля 12:00 адбыўся пажар у размешчаным на вуліцы Юбілейнай вуліцы будынку інтэрната ПМК-70.**

Прыбыўшыя на выклік пажарныя выявілі, што ў будынку ўжо гарыць калідор пакоя № 6, а задымленне распаўсюдзілася на першы паверх пяціпавярховага інтэрната.

Ратавальнікі звёнаў газадымаахоўнай службы пры дапамозе кіслародных масак вывелі 66-гадовую пенсіянерку, якая пражывала ў пакоі № 15 і 30-гадовую маці з 6-гадовым дзіцем з пакоя № 18. Выратаваныя жыхары інтэрната не пацярпелі і пасля агляду медыкамі былі адпушчаныя дадому.

Узгаранне адбылося ў пакоі 60-гадовай пенсіянеркі, якая ў гэты момант знаходзілася ў ваннай. Ёй удалося пакінуць падпаленае памяшканне самастойна, жанчына таксама не пацярпела.

Пажарныя разам з работнікамі інтэрната па лесвічных маршах эвакуіравалі з размешчаных вышэй паверхаў будынка 35 чалавек, з іх 13 дзяцей.

Сігналізацыі, якая спраўна спрацавала, дазволіла ліквідаваць пажар у заспетых памерах і не дапусціць гібелі людзей, паведамляецца прэс-службай МНС.

Пажарам у калідоры блока знішчана маёмасць, пашкоджана ўваходныя дзверы, закураны столь і сцены, а ў агульным калідоры – закураны сцены. Па версіі ратавальнікаў прычынай ўзнікнення пажару магло стаць парушэнне правілаў эксплуатацыі электрасетак і электраабсталявання.

**Сяржук Крупскі**
**паводле зводак mchs.gov.by**

НАША СПАДЧЫНА

# ДАСЛЕДВАННІ ПАСЕЛІШЧА ПРАЦЯГВАЮЦЦА

**Навукоўцы працягнуць даследаванні старажытнага паселішча каля вёскі Кардон Шумілінскага раёна. У мінулым годзе навукоўцы Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук (НАН) Беларусі разам з прадстаўнікамі БДУ і Віцебскага дзяржуніверсітэта ўпершыню правялі дэталёвае археалагічнае даследаванне старажытнага паселішча каля вёскі Кардон ў Шумілінскім раёне Віцебскай вобласці.**

Ужо першыя вынікі працы дазволілі навукоўцам заявіць - тут быў буйны гандлёвы цэнтр ранняга шляху «з варагаў у грэкі», які злучае Балтыйскае мора з Чорным.

Помнік археалогіі каля кардоны на мяжы Віцебскага і Полацкага Падзвіння беларускія навукоўцы вызначылі яшчэ ў 1933 годзе. Было выяўлена гарадзішчы і паселішчы, знойдзеныя ў іх прадметы адпавядалі культурам VIII-IX стагоддзяў. Тым не менш, гэта месца палічылі недастаткова перспектыўным для даследаванняў і фактычна здрадзілі забыццю на многія дзесяцігоддзі.

У жніўні таго ж года археолагі пільней абследавалі шырокую плошчу ў ваколіцах помніка. На тэрыторыі паселішча на глыбіні да 60 см яны знайшлі шмат артэфактаў: часткі ювелірных упрыгожванняў, у тым ліку крыжыкі, пацерка, фрагмент срэбнай падвескі, верагодна частка скроневыя кольцы, медны фоліс (манета) часоў візантыйскага імператара Льва VI, пераўтвораны ў падвеску, а таксама раменныя накладкі, скандынаўскую гірку-разновес, манеты і гузікі IX-X стагоддзяў, злiткі каляровых металаў.

Дзіўна, але сярод іншых знаходак археолагам атрымалася выявіць некалькі манет, адна з якіх пасля была датавана 79 годам нашай эры, а другая - 164-169 годам н.э. Гэта грошы, якія былі выраблены ў Рымскай імперыі ў часы праўлення дынастый Флавіяў і Антаніна адпаведна.

Як яны маглі трапіць на тэрыторыю сучаснай Беларусі, карэспандэнту Naviny.by распавяла Вольга Ляўко.

«Так, з манетамі, якія складаюць асноўную масу нашых знаходак, гэтыя рымскія манеты падзяляе практычна тысяча гадоў, – адзначыла яна. – Трапілі яны з людзьмі, якія прыйшлі ў раён Кардона яшчэ ў III-IV стагоддзі. Невялікія групы людзей на малых рэках праходзілі з поўдня на поўнач праз буферную зону паміж Дняпром і Дзвіной. Яны альбо спыняліся ў пустых месцах, альбо падсяляе да першабытнікаў. Мы знайшлі некалькі такіх паселішчаў у Беларусі, і сёння можам казаць, што III-IV стагоддзя - гэта не толькі час праславян, але і час ранніх славян на нашай тэрыторыі».

«У той час функцыянавалі" пушныя шляху ", якія вынікалі да нас з перыферыі Рымскай імперыі. У асноўным яны пралягалі па паўднёвых рэгіёнах, але, як мы бачым па манетах, выяўленых у самым нізе культурнага пласта, людзі дабіраліся і на поўнач, у саму пушных зону – закуплялі футра, воск. Усё гэта было вельмі дарагімі таварамі, папулярнымі ў паўднёвых краях, дзе гэтага не было. Асобныя рымскія манеты фіксаваліся толькі на самых заходніх ўскраінах Падзвіння, у зонах бліжэй да Рызе. Што тычыцца сярэдзіну зоны беларускай Дзвіны або ўсходняй зоны віцебскага Падзвіння - гэтым мы пахваліцца не маглі », – патлумачыла прафесар Ляўко.

Паводле яе слоў, той факт, што манеты з I стагоддзі н.э. выявілі на тэрыторыі селішча блізу кардоны, росквіт якога наступіў фактычна праз тысячагоддзе, кажа пра тое, што на яго месцы было яшчэ больш ранні паселішча.

Кардон – гандлёвае братэрства з шырокімі сувязямі

Прафесар Ляўко адзначыла, што тэрыторыя блізу кардоны як людское паселішча функцыянавала доўга, але пік росквіту прыйшоўся на IX – сярэдзіну X стагоддзя, пра гэта сведчыць мноства манет таго перыяду разам з іншымі знойдзенымі артэфактамі.

На жаль, вызначыць, як шмат людзей жыло ў гэтым селішчы, не ўяўляецца магчымым. Навукоўцы паспелі «раскапаць мізэрную плошчу на фоне агульнай тэрыторыі» і пакуль што «не знайшлі слядоў такой яркай забудовы або чагосьці іншага, на падставе чаго можна было б праводзіць такія вылічэнні».

Пакуль што нават нельга з упэўненасцю сказаць, што скандынавы пастаянна жылі ў селішчы ў кардоны. Аднак далейшае даследаванне гавані за гарадзішчам, дзе, не выключае прафесар Ляўко, пад пластом глею можа апынуцца нават варaскае судна, можа дапамагчы "ўстанавіць цыклічнасць прыбыцця тавараў, выкарыстання вадаёмаў, прыпынкаў людзей, якія прыязджаюць з Поўначы і Поўдня».

Нягледзячы на сваё выгаднае месцазнаходжанне, багатых жыхароў, працяглы перыяд мірнага існавання, паселішча каля кардоны не змагла б аформіцца ў асобнае княства, паколькі «для развіцця асобнай палітычнай структуры недастаткова аднаго селішча, ёй патрэбна падуладная прылеглая тэрыторыя».

«Калі, напрыклад, Полацк валодаў нейкай тэрыторыяй, валасцю яшчэ ў перыяд племяннога ладу і затым там склаўся якасна новы ўзровень палітычных адносін, то тут, у Кардоне, гэтага не магло адбыцца. Тут быў толькі адзін агульны інтарэс – гандлёвыя адносіны, ўзбагачэнне за кошт далёкіх выездаў, абмену таварамі. Мне гэта чымсьці нагадвае даўнія піpацкія братэрствы, якія былі на астравах Карыбскага мора, калі з розных краін з'язджаліся, размаўлялі адзін з адным, жылі добра », – патлумачыла навуковец.

На месцы раскопак археолагі выявілі сляды двух пажараў. Апошні пажар, перакананая прафесар Ляўко, стаў вынікам экспансіі Полацкага княства, якое пашырала свае ўладанні на ўсход. Паселішча на мяжы Полацкага і Віцебскага Падзвіння княству было «зусім не цікава і не патрэбна", таму «Кардон трэба было альбо сабе сілком падпарадкаваць, альбо знішчыць, і на якасна новым узроўні будаваць свае эканамічныя і палітычныя інтарэсы».

Чым жа было гэта ўнікальнае ў рэгіёне паселішча?

«Мы гэта месца пазіцыянуем як ранні пункт шляху" з варагаў у грэкі ". Гэты шлях праходзіў менавіта праз віцебскае Падзвіньне – з Оршы на Віцебск, з Віцебска на Ловаць і наперад да Ноўгарада, а не робячы зігзаг праз Гнёздава на Смаленшчыне. Па храналогіі наша зона пераўзыходзіць зону гнездавых на стагоддзі, паколькі ў раёне Віцебска ў нас ёсць скарбы IX - пачатку X стагоддзя, а на Смаленшчыне нічога раней X стагоддзя няма », – падкрэсліла кіраўнік цэнтра археалогіі і старажытнай гісторыі Беларусі.

Даследаванні старажытнага паселішча ў Кардоне будуць працягнутыя.

На прэс-канферэнцыі 11 красавіка ў Мінску дырэктар Інстытута гісторыі НАН Вячаслаў Даніловіч пацвердзіў, што на гэты год запланавана яшчэ адна экспедыцыя ў раён кардоны.

«Дзяржава выдзеліла сродкі на арганізацыю экспедыцыйных даследаванняў у рамках дзяржаўнай праграмы, гэта факт, – запэўніў ён. – Экспедыцыя запланавана, але канкрэтныя даты я пакуль назваць не магу, іх вызначыць Вольга Мікалаеўна Ляўко. Самая вялікая складанасць для нас цяпер – рабочая сіла. Думаю, мы дамовімся з Віцебскім дзяржуніверсітэтам і атрымаем магчымасць задзейнічаць на нашых працах у кардоны студэнтаў. Такія ж перамовы мы вядзем з гістарычным факультэтам БДУ».

Данілавіч дадаў, што на мінулым тыдні Інстытут гісторыі правёў у Шумілінскім раёне (Віцебская вобласць) рэгіянальную канферэнцыю, прысвечаную захаванні гісторыка-культурнай, археалагічнага спадчыны, на якой паселішча блізу кардоны было цэнтральнай тэмай.

Навуковая канферэнцыя ўразіла як прадстаўнікоў мясцовых уладаў, якія абяцалі навукоўцам разнастайнае садзейнічанне, так і старшакласнікаў, вызваўшыхся паўдзельнічаць у даследаванні гэтага аб'екта.

Для складаных падводных работ у гавані за гарадзішчам Інстытут гісторыі плануе прыцягнуць дайвінг-клуб «Марскі Пегас»

**naviny.by**
**Пераклад з расейскай рэдактара**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

НАША ГІСТОРЫЯ

# САМАЗАБОЙЧЫ РЭФЕРЭНДУМ 1995-ГА

**Здавалася б, ну чаго з гэтым сцягам і мовай насіцца? Значна больш важныя пытанні дэмакратыі, паўнамоцтваў прэзідэнта ды парламенту... Але з часам апынулася, што і мова, і сімволіка — гэта не толькі трызненні рамантыкаў-«адраджэнцаў», але яшчэ і пытанне нацыянальнай бяспекі.**

Першы, але не апошні за гады праўлення сённяшняга кіраўніка Беларусі, рэферэндум адбыўся 14 мая 1995 года. Першы і... лёсавызначальны. Тактычна кіраўнік Беларусі тады перамог, стратэгічна — прайграў

Як мы памятаем, падчас рэферэндуму на галасаванне былі вынесены чатыры пытанні: аб замене нацыянальнай сімволікі, аб наданні рускай мове роўнага статусу з беларускай, аб інтэграцыі з Расіяй ды аб наданні прэзідэнту права роспуску парламента.

Ці былі вынікі галасавання аб'ектыўнымі? Спрэчкі ідуць дагэтуль. Пра працэнты, парушэнні, само права на рэферэндум з юрыдычнага боку. Пытанне ў іншым: ці магчыма наогул выносіць на галасаванне (ставіць пад сумнеў) прынцыпы, якія дазваляюць народу зваццa народам і ў далейшым самастойна вызначаць свой лёс?

Адсоўванне нацыянальнай сімволікі ды мовы з дзяржаўнага ўзроўню стала для Беларусі самазабойчымі крокамі. Герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг на доўгія гады апынуліся па-за законам — за іх выкарыстанне тысячы людзей трапілі пад рэпрэсіі, гістарычныя сімвалы сталі фактычна забароненымі. Родная мова апынулася дэ-юрэ «роўнай» з расійскай, але дэ-факта — выкінутай з ужытку, нацыя анямела.

Здавалася б, ну чаго з гэтым сцягам і мовай насіцца? Значна больш важныя пытанні дэмакратыі, паўнамоцтваў прэзідэнта ды парламенту... Але з часам апынулася, што і мова, і сімволіка — гэта не толькі трызненні рамантыкаў-«адраджэнцаў», але яшчэ і пытанне нацыянальнай бяспекі. Маеш мову і гісторыю, пазначаную сімваламі, — значыць, маеш права на незалежную дзяржаву. Карыстаешся чужой мовай і бутафорыяй замест гісторыі — чакай гасцей. Прыклад Украіны, дзе пад удар Расіі трапілі акурат русіфікаваныя дэнацыяналізаваныя рэгіёны, — выдатнае таму сведчанне.

Пасля падзеяў у Крыме і ў Данбасе падалося, што дзяржава пачала разумець: перагнулі з чысткай усяго беларускага, трэба назад адкручваць. Але як адкруціш, калі дзеці з рускамоўных школаў не тое што размаўляюць — разумеюць па-беларуску з цяжкасцю? Як адкруціш, калі для тысяч сілавікоў, выгадаваных пры Лукашэнку, нацыянальныя сімвалы сталі аб'ектам нянавісці на падсвядомым узроўні?

Па вялікім рахунку, рэферэндум не проста ўзаконіў новыя герб са сцягам ды рускую мову, ён даў дабро на вынішчэнне ўсяго нацыянальнага пад корань. Нацыяналізм стае галоўным ворагам кіраўніка і ўсёй ягонай вертыкалі. Але і тут захаваная міна запаволенага дзеяння: дэмакратаў перамагчы можна, асабліва калі дзейнічае сацыяльная дамова — улада ўзамен на стабільнасць. Якія там справядлівыя выбары, калі ў лядоўні поўна? Ці багата хто захоча сядзець у засценках за абстрактныя «правы чалавека» ці абяцанні рэформаў?

З нацыяналістамі — складаней. Якія б добрыя дарогі ні будаваліся, як бы ні раслі заробкі ў «хлебныя» гады, ім усё адно няймецца: «Беларусь мае быць беларускай!» І нічога тут не паробіш. Зміцер Дашкевіч некалі казаў, што прыйшоў у пратэстны рух менавіта праз змену нацыянальнай сімволікі ў 1995-м. Маладога яшчэ будучага палітыка, палітвязня і «вулічнага байца» абурыла падмена натуральных рэчаў, якія ёсць у кожнай дзяржаве, на бутафорыю. А калі ў чалавека забіраюць нешта натуральнае, як паветра, — выбару няма: трэба ісці да апошняй мяжы...

Міраслаў Лазоўскі, адзін з ключавых фігурантаў «Справы патрыётаў», неадноўчы казаў: «Мне няма розніцы да прозвішча прэзідэнта, галоўнае — незалежнасць». Упэўнены, што такой пазіцыі трымаецца абсалютная большасць хлопцаў, якім зараз шыюць 287-ы артыкул. Натуральная рэч — незалежнасць. Тыя, хто без грошай і спадзеваў на высокія пасады будзе яе бараніць, — залаты фонд нацыі: не здрадзяць, не разбягуцца, не здадуць. Але жне: «нацыяналіст» для ўладаў па-ранейшаму вораг. А як інакш? Прагаласаваў жа народ яшчэ ў 1995-м...

Вядома, той рэферэндум быў зроблены як пад замову Расіі, так і пад замову сацыяльную: Лукашэнка адчуў народ з ягонай настальгіяй па СССР і бязмежнай любоўю да «старэйшага брата». Адчуў — і сыграў. Але ведаць псіхалогію «простага чалавека» — гэта яшчэ далёка не ўсё ў палітыцы. Трэба троху далей глядзець, на крок наперад.

І тут Лукашэнка прайграў — выкінуў адразу ўсе карты. Можна ж было і гайкі зацiскаць, і з Расіяй фліртаваць, але пры гэтым умацоўваць нацыянальны складнік, нават з прагматычных пазіцыяў, каб больш упэўнена пачуваць сябе ў гульні. Урэшце, ёсць прыклад Казахстану, дзе кіраўнік і Пуціну руку ціснe, і мову з кірыліцы на лацінку пераводзіць, нібы кажучы: «Мы — іншыя. Тут не «русский мир».

Тактычна Лукашэнка ў 1995-м перамог, стратэгічна — прайграў. Але ці ён адзін? Прайграла ўся Беларусь разам з мёртвымі, жывымі і ненароджанымі — уся нацыя ў перспектыве прасторы і часу. Вяртацца на нацыянальныя пазіцыі для Лукашэнкі зараз — нібы здрадзіць самому сабе, пакінуць усё, як ёсць, — згубіць краіну. Цяжкі выбар, дылема. Але ці бывае па-іншаму ў складаныя часы?

**Алесь Кіркевіч**
**"Новы Час"**




НАША ЎЛАДА

# КАК ВЫГЛЯДИТ НАСТОЯЩЕЕ «СТЫДОБИЩЕ» ЛУКАШЕНКО

**Зацепило! Почему «стыдобище» в спорте главу государства интересует больше, чем «стыдобище» в экономике? Как ни тужились идеологи создать 9 мая что-то «прыкрасное» по всем канонам официоза, Александра Лукашенко больше волновали 5-я колонна, деревня и хоккей.**

Пока натренированные гимнасты в гимнастерках упражнялись в стойке «делай раз, делай два», главнокомандующий и его свита тоже пытались сымитировать что-то победоносное. Так сказать, под стать торжеству момента.

Только вот получилось не очень. Бравурные песни и пляски так и не смогли зажечь огня в душе главного потребителя этой праздничной феерии. Он был грустен и безучастен.

Что хотели услышать от Лукашенко белорусы? По крайней мере те, кто еще рассчитывает на какие-то слова. Наверняка, думали, что руководитель выйдет к народу, подбодрит и заверит, что главные победы у нас еще впереди и мы обязательно по примеру наших славных предков преодолеем все свалившиеся на нас (не будем уточнять благодаря кому) беды.

А что услышали? В своей торжественной речи Лукашенко рассказал про врагов, которые окопались вокруг наших границ, про 5-ю колонну, которая лелеет свои коварные планы, и про земной шар в огне. А после торжественной речи и вовсе удивил всех.

Выяснилось, что главу государства больше интересует, «как можно было пропустить с „пятака" третью шайбу от финнов», нежели проблемы, с которыми столкнулась наша страна. Упадок в экономике, нищета, отсутствие нормальной работы и перспектив... Нет, все это не нашло отражения в речах руководителя. Он прямо дал понять, что «стыдобище» в спорте его волнует значительно больше, чем стыдобище в экономике. Глава государства готов был взахлеб рассказывать, как надо пасовать и пробивать, и абсолютно не парился по поводу собственных побед. Вернее, их отсутствия.

Интересы белорусов и Лукашенко в этот день (да и не только в этот) явно разошлись. Пока одни думали, как найти работу в городе, где единственное предприятие ввиду бездумной государственной политики стало банкротом, другой придумывал новый способ, где еще закопать деньги, решив пустить их на умирающие деревни.

Пока одни ужасались собственным бедственным положением, другой рассказывал о тяжелых буднях мигрантов в Европе.

Слушая речи президента, глядя в его усталые, без малейшей надежды и интереса глаза, думаю, многие в этот момент думали про «стыдобище». Только не про то, о котором вещал Лукашенко.

Потому что «стыдобище» — это не когда ты не забиваешь в ворота противника, а когда более 20 лет топчешься на одном месте, называя это «особенным курсом».

«Стыдобище» — это не когда ты пасуешь не туда, а когда экономика твоей страны пасует, потому что не может существовать без субсидий соседнего государства, а иного способа управления ты не знаешь.

«Стыдобище» — это не когда ты теряешь шайбу, а когда ты теряешь людей, которые уезжают из страны в поисках нормальной жизни, потому что тут у них забрали не только возможность заработать, но и надежду на лучшее будущее.

Все это и есть настоящее стыдобище. Только вот стыдно ли его главному организатору?

**Светлана Метёлкина**
**http://gazetaby.com**

ДЗЕНЬ ЕЎРОПЫ

# ПРАЕЎРАПЕЙСКУЮ МОЛАДЗЬ САБРАЎ ДЗЕНЬ ЕЎРОПЫ

**Лекцыі экспертаў, віктарына пра ЕЗ і кінапрагляд — Рух «За Свабоду» зладзіў трэці Дзень Еўропы у Мінску.**

Адкрыў Дзень Еўропы эканаміст Сяргей Чалы лекцыяй «Ці можа Беларусь стаць „Кіпрам"». У ёй ён разабраўся, на якім месцы знаходзіцца беларуская эканоміка ў Еўропе, і якія нашыя перспектывы.

«Пры ўсіх размовах пра крызіс толькі дзве краіны не „растуць" у нашым рэгіёне — Беларусь і Расія. Нашая эканоміка ўсё больш набывае рысы нафтавай эканомікі. Строга кажучы, так яно і ёсць. Праўда, мы здабываем нафту не ў зямлі, а ў Расіі», — адзначыў Чалы.

Ён чакае, што добрых перспектываў у беларускай эканомікі пакуль не шмат: «перад тым як будзе лепей, будзе горш».

«Беларусь патрэбная Расіі больш, чым Расія патрэбная Беларусі. Яны нам плацяць засталося дaвeдацца, за штo. А плацяць яны за вельмі дарагі тавар — анестэзію фантомных імперскіх боляў», — адзначыў эканаміст.

Удзельнікі разам з кінакрытыкам Максімам Жбанковым пaглядзелі і абмеркавалі фільм «Бразілія» Тэры Гільяма. А кіраўнік Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, сябра Рады Руху «За Свабоду» Антон Астаповіч распавёў пра «Еўрапейскі кантэкст беларускай культуры».

«Трэба памятаць пра вялікі ўплыў рускай культуры і помніць пра польскі, але ніколі нельга закульвацца ў нейкі адзін бок. Мы этнас, культура, якая сфармавалася на зломе двух цывілізацыяў, і мы павінны захаваць сваю інтэнтычнасць. Калі будзем хіліцца ў адзін ці другі бок, то ёсць пагроза яе страты», — падкрэсліў Астаповіч.

«Дзень Еўропы — дата, якая звязаная з абвяшчэннем аб'яднання еўрапейскіх краінаў. Рух „За Свабоду" ладзіць свята як дзень міра, еднасці Еўропы», — адзначыў адзін з арганізатараў свята, намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Кірыл Стаселька.

Па яголых словах, Дзень Еўропы дапамагае зразумець беларусам, што яны з'яўляюцца еўрапейцамі

***(працяг на стар. 4)***

ДЗЕНЬ ЕЎРОПЫ

(пачатак на стар. №3)

— не менш, чым жыхары краінаў, якія ўваходзяць у Еўрапейскі звяз.

«Еўрапейскасць фармуецца не толькі прыналежнасцю да ЕЗ, колькі адпаведнай ідэнтычнасцю, успрыняццём саміх сябе і навакольнай рэчаіснасці», — падкрэліў Стаселька.

Ён пазітыўна ацаніў само мерапрыемства, кажа, што атрымалася стварыць цёплую цікавую атмасферу.

«Дзень Еўропы — важнае мерапрыемства, бо мы еўрапейцы, культурна, па ўзроўні адукацыі», — адзначыла адна з арганізатараў, сябра Рады Моладзі Руху «За Свабоду» Вікторыя Таболіч.

Вікторыя асабліва адзначыла кінапрагляд, адзначыўшы, што фільм «Бразілія» прымусіў задумацца, і да яго яны з сябрамі вярнуцца яшчэ не раз.

**Вольга Быкоўская**

АДУКАЦЫЯ

# ВНАЧАЛЕ БУДЕМ УЧЕБНИКИ ПЕРЕПИСЫВАТЬ…

**Зацепило! Программу сократить, учебники — новые, уроки — с 9 утра, — требовал Лукашенко с трибуны. И все потому, что Коле сложно учиться и по утрам он не высыпается.**

— Спрашиваю у своего (сына — С.), ну как на первом уроке? Отвечает: «Ну, папа, ничего. Все спят и я там прикорну». Ну, слушай, ты же сын президента, нельзя так. Говорит, спать хочу, — рассказывал парламентариям и народу Лукашенко и возмущался: — Безобразие в школе!

Конечно, любой другой отец в этой ситуации просто положил бы своего сына пораньше спать. Но зачем? Президенту же легче перенести уроки для детей всей страны на час позже.

— И не смотреть, что родителям сложно в школу отправить ребенка, потому что они раньше идут на работу, — инструктировал Лукашенко.

И правда, чего на это смотреть, когда Коля не высыпается? Пусть уж 6-летний Ваня или 7-летняя Даша сами как-нибудь завтраками себя кормят и до школы доводят. Главное, что Коля теперь будет бодр и весел. Его же есть кому накормить и отвести!

Ну и программы, соответственно, надо подкорректировать. У нас ведь как? Учится Коля в 5-м классе — будем для 5 класса учебники переписывать, идет в 6-й — для 6-го исправим, в 7-м сложно — что ж, надо подстроиться. Каждо этого исправили в предыдущем, особо и не важно — Коле ж там уже не учиться.

С такими темпами мы сначала школьные программы перепишем, потом вузовские. А дальше что будем под Колю переписывать? Конституцию?

**Вероника Белова**

"ПАРАДАК"

# «В ДЕРЕВНЕ ОСТАЮТСЯ СЛАБЫЕ... »

**Экономист Леонид Заико — о планах главы государства навести порядок в деревне:".. пока в деревне убивают человека, там остается самый неэффективный человеческий капитал. И сколько туда сколько денег не вкладывай — будет труба."**

Накануне Александр Лукашенко заявил о том, что в Беларуси «будут восстанавливать небольшие деревни».

— Их надо приводить в порядок, — сказал он. — И если люди будут там жить, мы обязательно модернизируем, отремонтируем инфраструктуру для них. Мы будем делать это по всей стране.

Руководитель страны также добавил, что государство будет делать «все для того, чтобы эти деревеньки восстановить». В частности, планируется подвести к ним дороги, что предусмотрено госпрограммой по развитию сети местных дорог.

Руководитель Аналитического центра «Стратегия» Леонид Заико сомневается в успехе инициативы.

— Они сначала создали проблемы, а теперь хотят их решать, — заметил он в экспресс-комментарии «Салідарнасці».

— Мне кажется, белорусская власть просто не понимает, что произошло в деревне. Она не имеет ни малейшего представления. Дело в том, что в Европе еще в средние века бедные крестьяне разорялись и уходили в города. А в сельской местности оставались самые сильные. В Беларуси и в России все было наоборот. С того времени, как началась коллективизация, самые сильные и умные начали уходить из деревень.

По мнению эксперта, главная проблема современной белорусской деревни в том, что там остался неконкурентный социальный материал:

— Если кто-то не верит, пускай посмотрит на личность Александра Григорьевича — он ведь из деревни ушел? Ушел. А остались там с большего самые слабые и неконкурентные. Пускай чиновники назовут имена своих детей, которые поехали в деревню работать. У кого из министров ребенок пошел работать в колхоз? Покажите мне этого человека.

По мнению Леонида Заико, в такой ситуации никакого смысла вкладывать деньги в деревню нет.

— Там надо заново создавать человеческий капитал. И никаких условий не надо — просто не трогайте людей. Отдайте им землю, у них найдутся и родственники, и друзья... Кто-то найдет наемных работников — все это люди могут сами сделать. Просто надо сделать то, что еще большевики обещали, но не исполнено до сих пор.

Вопреки распространенному мнению, частные фермеры могли бы успешно работать в Беларуси.

— Есть место не только крупным, но и мелким хозяйствам, которые будут иметь свою нишу. Можно выращивать ягоды, фрукты, картофель... А пока в деревне убивают человека, там остается самый неэффективный человеческий капитал. И сколько туда сколько денег не вкладывай — будет труба.

**Павел Рос**
**http://gazetaby.com**

ПОГЛЯД НА ГІСТОРЫЮ

# СТАЛІН — ПЕРАМОЖЦА ЦІ ЛУЗЭР?

**10 траўня, на другі дзень пасьля сьвяткаваньня Дня Перамогі, паглядзеў на тэлеканале «РТР-Беларусь» перадачу «Вечар з Уладзімірам Салаўёвым». Абмяркоўвалі пытаньне аб ролі Сталіна ў перамозе над фашысцкай Нямеччынай. Паводле сацыялягічных апытаньняў, каля паловы грамадзян РФ станоўча ацэньваюць ролю генэралісімуса ў Вялікай Айчыннай вайне. І ўдзельнікі перадачы Салаўёва ў большасьці падзялялі такі погляд. Галоўны аргумэнт такі: а як яшчэ можна ацэньваць ролю Вярхоўнага галоўнакамандуючага войска, якое атрымала такую вялікую перамогу? Пытаньне пра цану перамогі пры гэтым неяк згубілася.**

Успомніўшы, што я паводле сваёй першай прафэсіі гісторык, вырашыў нагадаць некалькі тэзаў да ролі Сталіна ў вайне. Найперш два факты. У Першай сусьветнай вайне немцы змаглі акупаваць толькі невялікую частку Расейскай імпэрыі (да бальшавіцкай рэвалюцыі 1917 году). Лінія фронту праходзіла прыкладна пасярэдзіне сучаснай Беларусі. А ў Другой сусьветнай вайне, у час кіраваньня «вялікага палкаводца» Сталіна, немцы дайшлі да Масквы і Сталінграда.

Ніколі раней у гісторыі войнаў, якія вяла Расея, у яе не было так шмат палонных (каля 5 млн) і калябарантаў, якія ваявалі на баку ворага (1,5 млн).

Але вернемся да Сталіна. Напярэдадні вайны ім былі зроблены такія сур'ёзныя памылкі (іх можна назваць дзяржаўнымі злачынствамі), што яны сталі велізарнай трагедыяй для народаў СССР.

Найперш прыгадаем, што напярэдадні вайны была вынішчана большасьць каманднага корпусу Чырвонай Арміі, а таксама дзяржапарату, гаспадарчай, навуковай эліты. У шэрагу выпадкаў лейтэнанты пачалі камандаваць палкамі.

Безумоўна, тут не абысьціся без ацэнкі пакту Молатава — Рыбэнтропа. Я ня згодзен з распаўсюджанай думкай, што Сталін і Гітлер аднолькава вінаватыя ў развязваньні Другой сусьветнай вайны. Віна Сталіна ёсьць, як, дарэчы і кіраўнікоў Францыі і Англіі (Мюнхенская дамова). Але галоўная віна ўсё ж ляжыць на Гітлеру, які хацеў вайны, усімі сіламі дамагаўся яе, бо на гэтым грунтавалася ўся ягоная палітыка і ідэалёгія.

Тым ня менш, на мой погляд, пакт Молатава — Рыбэнтропа зьяўляецца стратэгічнай памылкай Сталіна. Найперш, адзначым, што гэта не дамова аб ненападзе, як дасюль падаецца ў нашых падручніках гісторыі. Бо былі ж яшчэ сакрэтныя пратаколы аб падзеле Ўсходняй Эўропы, а таксама дамова пра дружбу і мяжу ад 28 верасьня 1939 году. Фактычна гэта былі дамовы аб саюзе. У рэальнасьці ў 1939-1940 гг. СССР аказваў Нямеччыне эканамічную і дыпляматычную падтрымку агрэсіі ў Эўропе. Такім чынам, Сталін дапамог Гітлеру захапіць краіны, якія маглі стаць (а ў канцы вайны насамрэч і сталі) саюзьнікамі Савецкага Саюзу ў вайне. У выніку 22 чэрвеня 1941 г. СССР апынуўся сам-насам зь Нямеччынай. А потым абураўся, чаму так доўга не адкрываецца другі фронт.

Гэтая памылка дасюль шмат кім трактуецца ў Расеі як мудры крок і вялізны дыпляматычны посьпех СССР. А ў чым мудрасьць?

Маўляў, гэтым пактам Сталін разбурыў магчымасьць стварэньня «адзінага імпэрыялістычнага фронту» супраць СССР. Але саюз Францыі, Англіі (магчыма, ЗША) і гітлераўскай Нямеччыны быў немагчымы ў прынцыпе. Паміж імі былі нятолькі непрымірымыя геапалітычныя, але і мэнтальныя, псыхалягічныя (памяць аб Першай сусьветнай вайне і інш.) супярэчнасьці. Аднак савецкае кіраўніцтва кіравалася дагматычным клясавым падыходам, паводле якога капіталістычныя краіны могуць лёгка аб'яднацца дзеля зьнішчэньня такой ненавіснай ім пралетарскай дзяржавы.

Ці вось яшчэ аргумэнт. Маўляў, пакт Молатава — Рыбэнтропа адцягнуў пачатак вайны на два гады, дазволіўшы СССР лепш падрыхтавацца да вайны.

Але, па-першае, у 1939 годзе вайна з СССР у пляны Гітлера не ўваходзіла. Бо суадносіны сілаў у той момант былі на карысьць Савецкага Саюзу. А вось гэтыя два гады Гітлер скарыстаў лепш, чым Сталін, і ў 1941 годзе Нямеччына была больш гатовая да вайны, чым СССР.

А тое, што адбывалася апошнімі месяцамі перад вайной, не паддаецца ніякай нармальнай лёгіцы. Тое, што Гітлер зьбіраецца напасьці на СССР, канцэнтруе каля савецкай мяжы вялізную колькасьць войскаў, ведала, здаецца, уся Эўропа. Бо як гэта можна было схаваць? Пра гэта ведалі ўсе камандзіры і вайскоўцы тых частак, якія сталялі каля мяжы. Бо кожны дзень пра гэта сьведчылі ўсё новыя факты.

І толькі адзін чалавек у гэтую пагрозу катэгарычна ня верыў, адрынаў усе факты, забараняў камандзірам пад страхам рэпрэсій прымаць захады ўмацаваньня баяздольнасьці сваіх падразьдзяленьняў, каб «не справакаваць немцаў»! На няшчасьце, гэты чалавек быў неабмежаваным дыктатарам. У выніку войскі сустрэлі вайну дрэнна падрыхтаванымі, танкі і самалёты апынуліся бяз паліва і г.д.

Толькі адна з такіх памылак любому іншаму гістарычнаму дзеячу каштавала б таго, каб яго імя назаўсёды зганьбіць. Дарэчы, у Францыі і Вялікай Брытаніі палітыкі, што падпісалі Мюнхэнскую дамову, ацэньваюцца нэгатыўна. Але Расея — краіна зь гісторыяй, якая не прагназуецца.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 16.05.2017 у 18.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.